# LITIGATION in the BAOC

(continued from page 3)

(d) used the vestments, chalices, books, records and archives, referred to in paragraph 8 herein, in holding himself out to the public as a bishop of the BAOC and in performing holy liturgy, rites and services of the BAOC;

(e) failed to return to either Metropolitan Andrew or the Consistory the vestments, chalices, records, books and archives referred to in paragraph 9 herein;

(f) solicited and received, on his own behalf of the BAOC, donations from the members of the Parish of St. Kirylla of Turau and others, who believe they are making donations to a bishop of the BAOC or to the BAOC;

(g) failed to account to Metropolitan Andrew for the monies so received from members of the Parish of St. Kirylla of Turau and others and in fact, used the said monies for his own purposes and not those of the BAOC;

(h) prevented Metropolitan Andrew from performing the office of governing bishop of the European Diocese;

(i) prevented Bishop Iziaslav from performing the office of Rector of the Parish of St. Kirylla of Turau."

"20. These wrongful acts of the defendant are deceive and are calculated to deceive members of the BAOC and the public generally into believing:

(a) that he has the status and authority of a bishop of the BAOC and of the governing bishop of the European Diocese; and

(b) that he has the status and authority to perform holy liturgy, rites and services of the BAOC."

"21. The Plaintiffs therefore claim:

(a) An injunction restraining the defendant or anyone on his behalf from representing himself to be a bishop of the BAOC or in any manner similar as to be calculated to deceive the public into believing that he is in any way connected with the authorities of the European Diocese of the BAOC;

(b) An injunction restraining the defendant from doing or refusing to do any act with a view to interfering with the plaintiff, Metropolitan Andrew, in the exercise of his powers of the performance of his duties as governing bishop of the European Diocese of the BAOC and from asking, threatening, inviting, encouraging, urging or enjoining any person or persons from doing or refusing to do any act with a view so to interfere with the plaintiff, Metropolitan Andrew;

(c) An injunction restraining the defendant from doing or refusing to do any act with a view to interfering with the plaintiff, Bishop Iziaslav, in the performance of his duties as Rector of the Parish of St. Kirylla of Turau and from asking, threatening, inviting, encouraging, urging or enjoining any person or persons from doing or refusing to do any act with a view so to interfere with the plaintiff, Bishop Iziaslav;

(d) An injunction restraining the defendant or anyone on his behalf from performing holy liturgy, rites and services of the BAOC, including without limitation, communion, confessions, marriages, baptisms and burials at the Parish of St. Kirylla of Turau or elsewhere, within the jurisdiction of this Honourable Court;

(e) An injunction restraining the defendent or anyone on his behalf from using any of the vestments, chalices, books, records and archives which the defendent holds as trustee, by virtue of formerly holding the office of bishop of the BAOC, for the purpose of representing or in any manner calculated to represent himself as a bishop of the BAOC or as in any way connected with the authorities of the European Diocese;

(f) An injunction to restrain the defendant from soliciting donations from members of the Parish of St. Kirylla of Turau or of the BAOC and from removing from any banking account in the name of the BAOC any funds deposited therein, either by cash or by cheque or otherwise;

(g) Interim injunction until trial in the terms set out in (a) – (f) above;

(h) A reference to the Master for an accounting of all funds received by him from members of the BAOC as a result of solicitations or otherwise and payment of the amount found due to the plaintiffs on the taking of such accounts;

(i) Recovery of possession from and return by the defendant of all vestments, chalices, books, records and archives which the defendant holds as trustee by virtue of formerly holding the office of bishop of the BAOC;

(j) Their costs of this action;

(k) Such further and other relief as this Honourable Court may seem just."

## LITIGATION IN HIGHLAND PARK

On May 5, 6, 18 and 19th, 1982, the case of Rev. John Brucky and Victor Losik against Rev. Alexander Janowski, Eugene Dubiago and Vasil Rusak was before Judge Richard S. Cohen of the Superior Court of New Jersey in New Brunswick, New Jersey.

On May 24, 1982, Judge Cohen for the second time declined to decide the substantive issue of the law suit in the following words:

"I am reluctant to try to unravel all of this. First of all, neither the Metropolitan, the Archbishop nor the BAOC is a party in this case. One can not adjudicate matters touching the very heart of the BAOC's structure and near future in their absence."

On July 19, 1982, Rev. Brucky (Bishop Iziaslav) and Victor Losik filed a notice of appeal. Thus, the New Jersey litigation will continue in the Appellate Division of the Superior Court.

## CONCLUSION

Litigation in the BAOC is expanding with the commencement of the Consistory's action against Mikalay in Toronto and the appeal in New Jersey. Ironically, for a brief moment it appeared as if all of this litigation would be rendered academic by Mikalay's resignation. Indeed, a question arises as to who is responsible for litigation? If Mikalay had not reneged upon his resignation there presently would be no law suits in Toronto, New Jersey and elsewhere.

# З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў МЭЛЬБУРНЕ

## ВЯЛІКАЯ МІЖЦАРКОЎНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ

У нядзелю 30 травеня 1982 г. ў Мэльбурне, Аўстраліі, адбылася вялікая міжцаркоўная й міжрэлігійная ўрачыстасьць на абыходзіны „Зьніспасланьня Сьвятога Духа" ў адной з найбольшых цэркваў гораду, у „Scott Church". Самую ўрачыстасьць арганізавала шырака ведамая ў Вікторыі (Аўстраліі) міжцаркоўная арганізацыя В.І.Ч.І.К. да якой належыць БАПЦарква каторую рэпрэзэнтавалі на ўрачыстасьці а. Аляксандар Кулакоўскі, Настаяцель Прыходу Сьв. Віленскіх Мучанікаў і брат Захары як чытач „Дзеяньняў Сьвятых Апосталаў".

На ўрачыстасьці таксама прысутнічала духавенства ад іншых праваслаўных цэркваў уключаючы: Антыяхійскую, Асырыйскую, Армянскую, Ягіпецкую (Копты), Індыйскую, Румынскую й Украінскую. Ад неправаслаўных былі рэпрэзэнтаваныя пратэстанты, каталікі й „Армія Збаўленьня".

Падчас урачыстасьці й Багаслужбы царква была перапоўнена вернікамі розных пацыянальнасьцяў і веравызнаньняў а ў вялікім хоры сарганізаваным на гэтую ўрачыстасьць, сьпявала больш як дзесяць маладых беларускіх сьпявачак.

Сярод арганізатараў і прысутных засталося вельмі добрае ўражаньне па гэтай надзвычайна ўдалай ўрачыстасьці.

## 81-Я ЎГОДКІ МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ

У нядзелю 4 ліпеня, 1982 г., Парафія Сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне ўрачыста адзначыла 81-я ўгодкі жыцьця Блажэннага Ўладыкі Андрэя, Мітрапаліта БАПЦ. На ўрачыстую Багаслужбу сабралася шмат людзей. Прыгожа сьпяваў узмоцнены хор і адчуваўся сьвяточны настрой.

Пасьля Літургіі, Настаяцель Парафіі а. Аляксандар Кулакоўскі паінфармаваў прысутных аб жыцьці Мітрапаліта, аб ягонай няўтомнай працы для дабра БАПЦ і для ўсяго беларускага народу і расказаў пра сучасныя абставіны ў БАПЦ. Быў адслужаны Малебен за здароўе Мітрапаліта Андрэя і прасілася Бога даравацъ Блажэннаму Ўладыку духовых і фізычных сілаў і жыцьця на многія гады. Малебен закончыўся многалецьцем для Мітрапаліта й для ягонай Багалюбівай паствы.

Пасьля Багаслужбы, стараньнямі працавітых і ахвярных Сястрыцаў, быў прыгатаваны пачастунак у прыцаркоўнай залі.

Варта зазначыць яшчэ адно няштодзённае здарэньне; на ўрачыстасьці прысутнічалі беларускія госьці з Галяндыі – Ян і Ніна.

*– а. А. Кулакоўскі*

# Easter Greetings to Metropolitan Andrew from Patriarch Demetrios and Archb. Chrysostomoy

## FROM PATRIARCH DEMETRIOS:

'Αριθμ. Πρωτ. 163

'Ιερώτατε Μητροπολῖτα κύριε 'Ανδρέα, ἐν 'Αγίῳ Πνεύματι ἀγαπητέ ἀδελφέ καί συλλειτουργέ τῆς ἡμῶν Μετριότητος, χάρις εἴη τῇ ὑμετέρᾳ 'Ιερότητι καί εἰρήνη παρά Θεοῦ.

'Υπαντήσαντες καί ἑορτάσαντες μετά τῶν περί ἡμᾶς πιστῶν τήν λαμπροφόρον τοῦ Κυρίου 'Ανάστασιν, μετά πολλῆς τῆς χαρᾶς ἀπεδεξάμεθα τάς ἐπί ταύτῃ ἀδελφικάς προσρήσεις καί εὐχάς τῆς ὑμετέρας ἀγαπητῆς 'Ιερότητος.

Τό " 'Αληθῶς 'Ανέστη " αὐτῇ ἀντιφωνοῦντες, εὐχόμεθα δαψιλῆ τήν χάριν καί πλούσια τά δωρήματα ἀπό τοῦ 'Αναστάντος Χριστοῦ, παρ' Οὗ καί τά ἔτη αὐτῆς εἴησαν ὡς πλεῖστα, ὑγιεινά καί σωτήρια.

Ἅγιον Πάσχα τοῦ ͵αϡπβ'.

*Translation from Greek:*

Document 163.

To the Metropolitan Andrew, in the Holy Spirit, the grace and peace of God to you.

Having celebrated the great Feast Day of the glorious Resurrection of our Lord, with great joy we received the greetings from your Holiness.

Expressing the "Truly He is Risen", we pray for you and that the Resurrected Christ will grant you His Grace, and that your future years will be many, in good health and leading to salvation.

Holy Easter, 1982
Patriarch Demetrios

## From ARCHBISHOP CHRYSOSTOMOY of CYPRUS:

† Ο ΑΡΧΙΕΠΙΣΚΟΠΟΣ ΚΥΠΡΟΥ
ΧΡΥΣΟΣΤΟΜΟΣ

Τῷ Σεβασμιωτάτῳ Μητροπολίτῃ, ἀγαπητῷ ἀδελφῷ, κυρίῳ 'Ανδρέᾳ, ἀσπασμόν ἅγιον ἐν Χριστῷ ἀναστάντι.

Πεπληρωμένοι φωτός ἀϊδίου, ἐκ τάφου ἀνατείλαντος Χριστοῦ, ἄσμενοι ἐδεξάμεθα καί τάς ἑορτίους τῆς 'Υμετέρας ἀγαπητῆς Σεβασμιότητος προσρήσεις καί εὐχάς.

Εὐχαριστοῦντες ἐπ' αὐταῖς θερμῶς, ἀντευχόμεθα τῇ 'Υμετέρᾳ Σεβασμιότητι ὑγιείαν ἀκλόνητον, ζωήν πολυχρόνιον καί δαψιλῆ ἄνωθεν ἐνίσχυσιν καί ἐνδυνάμωσιν ἐν τοῖς ἱεροῖς Αὐτῆς ἔργοις.

'Απονέμομεν τῇ 'Υμετέρᾳ Σεβασμιότητι καί αὖθις τόν ἀναστάσιμον ἡμῶν ἀσπασμόν.

Μετά τῆς ἐν Κυρίῳ ἀγάπης

'Ι. 'Αρχιεπισκοπή Κύπρου,
Ἅγιον Πάσχα 1982.

*Translation from Greek:*

To His Eminence the Metropolitan Andrew, we greet you in Christ Resurrected.

Being filled with the eternal light of the Resurrected Christ, we were pleased to receive your greetings and wishes.

Thanking you for this, we return your greeting with the prayer for good health, a long life and God's strength in your Holy work.

We send you the Easter greeting.

With love in our Lord,
Archbishop Chrysostomoy

Holy Easter, 1982

# МІКАЛАЙ ПАД СУДОМ

*ТАРОНТО, Канада* Вялікая міжнародная адвакацкая фірма „Бэйкэр энд Макэнзі" каторая рэпрэзэнтуе Кансысторыю БАПЦ ў Канадзе паведамляе, што архіяпіскап Мікалай ўжо знаходзіцца пад судом. Пасьля доўгай няўдачы з даручэньнем судовых папераў Мікалаю й пакліканьня ў суд, бо Мікалая „ніколі ня было", іх прыняў Мікалаявы адвакат.

Мікалая судзіць Кансысторыя БАПЦ ўключаючы Мітрапаліта Андрэя як Першагерарха й Старшыні Кансысторыі й а. Васіль Кендыш як Сакратар кансысторыі. У судовых паперах Мікалай называецца „Міхаіл Мацукевіч, раней ведамы як Архіяпіскап Мікалай".

Кансысторыя абвінавачвае Мікалая ў тым, што ён прычыніўся да вялікай шкоды ў БАПЦ сваім умяшаньнем у Амэрыканскую Епархію каторая яму не належыць, сваім „перанясцьцем" парафіяў БАПЦ ў ЗША, сваім назначэньнем у парафію ў Гайлянд Парк сьвятара каторага Мітрапаліт раней звольніў і сваім падтрыманьнем бунту супраць БАПЦ. Мікалай абвінавачваецца таксама ў тым, што ён не падпарадкаваўся ані Мітрапаліту Андрэю ані Сабору Япіскапаў БАПЦ і не прызнае свайго звальненьня як япіскап БАПЦ.

Кансысторыя просіць судовых уладаў забараніць Мікалаю надалей называць сябе япіскапам БАПЦ, служыць у парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, выконваць розныя царкоўныя трэбы або ў іншы спосаб рэпрэзэнтаваць сябе ад імя БАПЦ. У дадатак да гэтага, патрабуецца ў Мікалая зварот усіх царкоўных кнігаў, архіваў, грошаў, царкоўнай маёмасьці й аплату судовых коштаў.

У сваім афідавіце з дня 28 ліпеня 1982 г., адказваючы на гэтае абвінавачаньне, Мікалай кажа: „Я поўнасьцяй адкідаю абвінавачаньне а. Васіля Кендыша ў пункце 14-м ягонага афідавіту, што я ўмешваўся ў справы Амэрыканскай Епархіі й адказаўся падпарадкавацца Сабору Япіскапаў". У іншым пункце свайго афідавіту Мікалай не прызнае Статуту БАПЦ каторы падаў а. Васіль Кендыш а далучае свой „афіцыйны тэкст".

У пункце 9-м свайго афідавіту, пярэчачы асьветчаньню а. Васіля Кендыша, Мікалай піша, што Агульны Сабор БАПЦ ёсьць найвышэйшым органам Царквы і, далей, у пунктах 13-м і 39-м, што ён (Мікалай) шмат разоў прасіў Мітрапаліта Андрэя склікаць Агульны Сабор для палагоджаньня закалоту. Тут трэба дадаць, што Мікалай забыўся ўспомніць тое, што ўсе пастановы Агульнага Сабоу падлягаюць зацьверджаньню япіскапам. Справы Мікалая й растрыжанага сьвятара Яноўскага ўжо вырашаныя Саборам Япіскапаў і апэляцыя гэтых справаў да Агульнага Сабору напэўна ня прынясе ніякай зьмены. Больш рэальна было-б Мікалаю апэляваць да Сабору Япіскапаў.

У канцы свайго афідавіту Мікалай кажа, што, маючы 65 гадоў, „Я ня маю ані здольнасьці ані ахвоты закладаць новую Царкву."

У дадатак да Мікалая, пакліканьне ў суд атрымаў банк дзе Мікалай і таронцкая парафія трымаюць свае грошы й таксама адзін сябра парафіяльнай рады парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта каторы быў змушаны судовымі ўладамі зьявіцца на перадсудовы допыт у дню 13 ліпеня 1982 г. Там ён сьведчыў пад прысягай наступнае:

(1) Пасьля выданьня свайго „адыходу на пакой" (адрачэньня) 1 траўня 1982 г. (*Беларускі ЧАС* №37) Др. Б. Рагуля з Канады сказаў Мікалаю не адыходзіць.

(2) У чэрвені, на сьвяткаваньні 65-х угодкаў ягонага жыцьця, Мікалай сказаў, што беларускія палітычныя арганізацыі у Канадзе й ЗША прасілі яго не адыходзіць.

(3) Раскол у БАПЦ пачаўся таму, што „палітычныя" арганізацыі ўмешваюцца ў Царкву й цяпер робяць перашкоды да палагоджаньня праблемы.

(4) Нават каб адбыўся Агульны Сабор БАПЦ й Мікалай яму падпарадкаваўся, тыя палітыкі не падпарадкуюцца.

(5) Рэдактар беларускай газэты (неназванай) падтрымлівае Мікалая.

У асобным часе адбыўся допыт банкавага прадстаўніка ў Таронта.

# 40-годзьдзе Беларускай Народнай Партызанкі

У гэтым годзе прыпадае 40 гадоў ад стварэньня Беларускай Народнай Партызанкі. Гэта быў цяжкі пэрыяд татальнай вайны – ворагі наступалі на Беларусь з усіх бакоў, і, у такіх варожых абставінах арганізаваўся беларускі супраціў. Больш за ўсё, ён нам сёньня сьведчыць яшчэ раз, што беларускі народ ніколі не згадзіўся ні з Савецкім, ні з Расейскім, ні з Польскім, ні з Гітлероўскім акупантам і выступіў у сваёй абароне збройным рэзыстансам.

Падобную гадаўшчыну (40 год У.П.А.) Украінцы адзначылі вельмі шырака 21 ліпеня, 1982 г., ў адным з памешканьняў Кангрэсу З.Ш.А. ў Вашынгтоне (Cannon Office Building) Рэпрэзэнтуючы амэрыканскія дзяржаўныя ўстановы, там прысутнічалі кангрэсмэны Дэрвінскі, Стратон і інш.

Заклікаючы Беларусаў таксама да шырэйшага адзначаньня гадаўшчыны Беларускай Народнай Партызанкі, мы тут перадрукоўваем некалькі аснаўных фактаў з гэтых падзеяў узятых з газэты *Беларускі Голас* за ліпень, 1982 г.:

„У гэтым годзе скончылася 40 гадоў ад ахвіцыяльнага стварэньня Беларускай Народнай Партызанкі з паразкіненых паасобных атрадаў, якія пачалі дзеяць ужо ў восені 1941 году. Дзякуючы нелегальнай групе Грамады адноўленай з ініцыятывы Юльяна Саковіча, вясной 1942 году ля Івацэвічаў на Палесьсі, – адбылася першая нарада камандзераў Беларускіх самастойных атрадаў, у якой прыняло ўдзел 12 камандзераў гэтых атрадаў і трох прадстаўнікоў нелегальнай Грамады (С. Хмара, В. Вірок і Ю. Стасевіч). У выніку нарады быў зарганізаваны Штаб Беларускай Народнай Партызанкі на чале з палкоўнікам Шанько, як Начальнікам Штабу (былы маёр Сав. Арміі) і двумя ягонымі заступнікамі: атаманам Харэўскім і ат. Суровым. Нарада прыняла як сваю палітычную плятформу – Акт 25-га Сакавіка – праграму Б.Н.Р. С. Хмара, В. Вірок і Ю. Стасевіч пакліканы былі ў палітычнае кіраўніцтва партызанкі, як Паўнамоцнікі Грамады. Беларуская Народная Партызанка налічвала каля 3,000 сяброў і каля 30-ці атрадаў, падатрадаў і груп. Атрады дзеялі на ўсім Палесьсі й Гарадзеньшчыне, ды Баранаўшчыне. Савецкі Партызанскі Штаб Панамарэнкі ўстрывожаны весткамі аб дзейнасьці Беларускай Народнай Партызанкі, кінуў у балоты Палесься вялікія дэсанты сваіх аддзелаў спэцыяльнага вызначэньня, складзеных з энкавудыстаў пад кіраўніцтвам палк. Лінькова й дзьвінуў з усходу спэцыяльнае партызанска-дывэрсыйнае згрупаваньне пад камандаваньнем гэн. Капусты, якія атрымалі заданьне зьнішчэньня Беларускай Партызанкі. Дзе подступам, дзе ўнутранай інфільтрацыяй, дзе пры дапамозе зброі, дывэрсанты Лінькова патрапілі пад канец 1943 году зьнішчыць, або захапіць у свае рукі, замардаваўшы Беларускіх камандзераў, амаль усе народныя атрады. (Палк. Шанько быў застрэляны подступам – запрошаны на „перагаворы" чакістам Ліньковым). Толькі атрады атамана Харэўскага й Перагуды даіснавалі да канца вайны, захаваўшыся на поўдзень ад Прыпяці (Ратненшчына, Маранщчына й Століншчына), каб пасьля перайсьці ў 1945 годзе ў Беласточчыну й дзеяць у Белавескай і Аўгустоўскіх пушчах, дзе сустрэліся яшчэ з адным ворагам: Польскай партызанкай, абараняючы Беларускія вёскі перад Польскімі зьверствамі. (У канцы 1945–46 гг. астаткі іх разьцярушана перасьлізнулі праз Польшчу ў Нямеччыну, а адтуль у Бразылію). ... Між іншым, на Палесьсі Беларуская Народная Партызанка (атрады ат. Харэўскага, Перагуда, Суворага й Патрубейкі) супрацоўнічала з Украінскай партызанкай ат. Бульба-Бараўца (Поліска Січ)."

# „ВЫСЯЛЯЮЦЬ" МІТРАПАЛІТА

2-га жнівеня, 1982 г., Сп. Я. Каваленка, пішучы ад імя Парафіяльнай Рады Прыходу Жыровіцкай Божай Маці ў Клііўлендзе, паведаміў Мітрапаліта Андрэя лістом, што ён мае 30 дзён выбрацца з Мітрапалічай рэзыдэнцыі ў Клііўлендзе.

Адказваючы на гэты ліст, Кансысторыя БАПЦ піша наступнае (падаецца вольны пераклад з ангельскай мовы):

(1) Мітрапаліт Андрэй, Першагерарх БАПЦ, мае сваю рэзыдэнцыю ў Клііўлендзе (адрыс паданы) і жыве там без кватэрнай аплаты й бяз умешваньня лякальных парафіянаў.

(2) Будынак у каторым жыве Мітрапаліт належыць да БАПЦ. Лякальныя парафіяне даглядаюць гэты будынак толькі як апякуны й пад кантроляй БАПЦ праз ейную Кансысторыю.

(3) Парафіяне ці Парафіяльная Рада Прыходу Жыровіцкай Божай Маці ў Клііўлендзе ня маюць праўнай кампэтэнцыі каб прыняць нейкія праўныя меры супраць Першагерарха БАПЦ і супраць свайго духовага й адміністрацыйнага правадыра.

(4) Калі Вы (значыць Каваленка) ці каторыя сябры гэтак званай Парафіяльнай Рады спробуеце прыняць меры супраць Першагегарха, Кансысторыя прыме адпаведныя праўныя меры.

На канцы Кансысторыя пагражае Сп. Каваленку й ягоным прыхільнікам царкоўнымі санкцыямі, уключаючы адлучэньнем ад царквы й экскамунікацыяй.

# „Чорныя Дзіркі"

Др. Р. Гарошка

У астраноміі на працягу некалькіх мінулых гадоў паўстала новая тэрміналогія, магчыма не вельмі літаратурная але акуратная: „чорныя дзіркі". Чорнымі дзіркамі называюцца тыя касмічныя прадметы ці целы, каторыя ня выдаюць ніякага сьвету (таму чорныя) і каторыя, вялікай сілай свайго гравітацыйнага прыцяганьня бясконца, як-бы „глытаюць" усю матэрыю якая пападае блізка да іх (таму дзіркі).

Чорныя дзіркі гэта касмічныя трупы вялікіх мёртвых зоркаў, найменш у шэсьць разоў большых за нашае сонца, якія, выкарыстаўшы сваё ядзернае паліва, страцілі сілу да супраціву супраць свайго нутранога гравітацыйнага прыцяганьня й сьціснуліся амаль у нішто, нібы-то пагвалчваючы законы традыцыйнай фізікі. Меньшыя зоркі ня могуць так моцна сьціснуцца й ня могуць стацца чорнымі дзіркамі.

Чорныя дзіркі бясконца дэфармуюць і час і прастор і недазваляюць ані ніякай матэрыі ані нават сьвету уцячы навонкі. Там традыцыйныя паняцьці часу, прастору або разьмеру ня маюць вартасьці і чорныя дзіркі могуць быць масты да другіх космасаў або дарогі ў будучыню або мінуўшчыну.

Нябачаныя чорныя дзіркі можна пазнаць праз радыяцыю выдаваную матэрыяй якая з вялікім прыскораньнем упадае ў тую „дзірку" спіральнай дарогай або праз гравітацыйныя ўплывы на блізкія касмічныя целы. Нашая галактыка (Малочная Дарога) напэўна мае чорную дзірку у сваім бурлівым і вельмі актыўным цэнтры, так як і іншыя галактыкі.

Чорныя дзіркі могуць быць таксама зусім маленькія, разьмерам можа як пратон але масыўныя як гара. Маленькія чорныя дзіркі ня могуць цяпер спантанічна ўтварыцца а паходзяць з тога „катастрафічнага" часу „стварэньня космасу" прыблізна 20 міліярдаў гадоў таму.

Калі ёсьць чорныя дзіркі, тады магчыма й ёсьць „белыя дзіркі" якія бясконца выкідаюць на вонкі матэрыю й энергію. Адкуль? Няведама. Хоць існаваньне белых дзірак можа здавацца зусім непраўдападобнае, але пакуль-што няма іншага тлумачэньня каб хоць трохі высьвяніць бачаныя й пацьверджаныя ў космасе надзвычайна энэргічныя, вялікія й далёкія (блізка „акраінаў нашага космасу") „целы". Ніякія ядзерныя або гравітацыйныя працэсы ня могуць прычыніцца да вытварэньня такой вялікай колькасьці энэргіі й гэтыя „целы" застаюцца вялікай загадкай на сёньняшні час.

УЛАДЗІМЕР ГЛЫБІННЫ

# ПОЛАЦКАЕ ДЗІВА

## З ЦЫКЛЮ „ГІСТАРЫЧНЫЯ АПАВЯДАНЬНІ"




*ДА 500-ГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ ФРАНЦІШКІ СКАРЫНЫ, ЯКОЕ ПРЫПАДАЕ НА 6 САКАВІКА 1986 ГОДУ.*

### 1.

Зіма ў 1486 годзе была доўгай і лютай. Яшчэ на пачатку сакавіка стаялі злосныя марозы. Усе рэкі былі скаваныя тоўстым вэлюмам ільда, бялюткага ад штодзённага напластаваньня сьнегу. Ужо каторы месяц спыніўся рух чаўноў і купецкіх баржаў па рацэ Дзьвіне. Дзекаторыя зь іх не пасьпелі сваім часам адыйсьці з Полацкае прыстані і цяпер, як тыя абледзянелыя прывіды, агромністымі патарчакамі безнадзейна глядзелі на бясконцую беласьнежную роўнадзь шырака разлеглага рэчышча. Чакаць ім і не дачакацца вясновай цяплыні, што павінна разваражыць заснулую прыгажуню і адрадзіць бурнае жыцьцё ўздоўж Дзьвінскіх берагоў. Ня чуваць цяпер на тых берагох зухаватых выкрыкаў купецкіх людзей, што давалі загады найманым, як і куды разгружаць прывезеныя ў Полацк з Смаленску і Віцебску або з маёнткаў Паддзьвіньня футры і скуры, мёд і воск, лён і збожжа, смалу і попел. Ня рэжа цяпер тут мясцовае вуха мова Рыскіх ды Кралевецкіх купцоў, якія некалі ўжо зраньня гарлапанілі панямецку на мясцовых грузчыкаў, устаўляючы для зразумеласьці дзе-якое зпольшчанае славянскае слова. Ня чуецца і зусім зразумелая тут гаворка Віленскіх і Горадзенскіх купцоў. Замоўкла стрыжатаньне скрыняў з сякерамі, нажамі, жалезам, волавам, медзьдзю і цынкам з нямецкіх земляў. Заціхла водгульле гуканьня паміж людзьмі, калі перакідвалі адзін другому пакі вугорскага і валахійскага сукна, турэцкіх сукняў. Вецер даўно ўжо разьнёс і выветрыў да рэшты пахі перцу і міндаля ўздоўж прырэчных будынінаў, выпетрыўся смурод нямецкага піва і кіслы пах замежных вінаў. Жыцьцё як-бы зусім запынілася, усё як-бы запрытомнела, на ўсім была адзнака зімы-чарадзейкі.

Аднак сіла тае вядзьмаркі слабела і зыходзіла на ніштo ў самім Полацку. Ужо на ягоным заходнім узьмежжы, уздоўж выкручастай ракі Палаты натоўпы хлапчукоў-падлеткаў павыраблялі сабе сьцежкі на лёдзе і з крыкам юнацкае радасьці насіліся на коўзанках. Вуліцы Вялікага пасаду кішэлі ад народу. Быў гандлёвы дзень. Уздоўж Вялікай вуліцы на правым беразе Дзьвіны ды на Прабойнай вуліцы з раньня каля крамаў праходзілі грамадкі людзей, апранутых у цёплыя ватоўкі з куніцынымі і сабалінымі каўнярамі ды лісінаю падшыўкаю. Зваблёныя размаітымі вырабамі мясцовых і замежных майстроў, дзе-хто адчыняў дзьверы ў крамы. Па Віцебскай вуліцы, Невельскаму тракту ды па Прабойнай з поўначы цягнуліся вялізарныя калымягі з дабром. Іхным возьнікам проста ўперадзе ўдалячыні на Чорнай гары за Чорным ручаём, на Дзяцінцы, вырысоўваліся муры Верхняга замку. Над ім магутна ўзносіліся ўвысь абрысы выцягнутых стромка ўвысь званіцаў Сафійскага сабору. Па гэты бок Дзяцінца цягнуўся лес колькі-павярхавых ладных дамоў Полацкіх багацеяў Вялікага пасаду.

На поўначы гораду пад зімовым, але ўжо досыць высокім і зыркім у сакавіку сонцам зіхацела вясёлым золатам свайго купала Спаса-Ефрасінеўская царква.

Мінуўшы курганныя палі і перасекшы Задзьвінскую дарогу, кіруючыся на Гандлёвую плошчу, возьнікаў пагляд упіраўся ў Бельчыцкія ўзгоркі. На іх нельга было ня ўбачыць чатыры высачэзных крыжа над званіцамі Барысаглебскага манастыра, якія асянялі разлеглыя там вялікакняжыя замкі. Праўда, возьнікам было не да тых дойлідзкіх пэрлаў цяпер. Ім трэба было трапіць як хутчэй на Гандлёвую плошчу, каб заняць лепшае з гледзішча доступу да пакупнікоў мейсца. Гандаль у Полацку пачынаўся ад самага сьвітаньня. Запозьненыя падводчыкі адно з зайдрасьцяй паглядалі на пакупнікоў, якія ўжо ўправіліся валакчы адтуль поўныя кошыкі. Купчыкі, якія ўжо зручна прадалі свой тавар, цяпер цягнуліся да пітных дамоў. Каля каторых шынкоў ужо чулася гамана людзей. Адтуль выходзілі ў кажухох рупныя дзяцюкі, якія выглядалі ўжо зраньня падвесялелымі і з вясёлымі словамі на вуснах.

Тымчасам з Запалацьця і Вялікага пасаду новыя людзі ішлі і ехалі на конях усё ў тым-жа кірунку да Гандлёвага пляцу. Чалавекі і жанкі, хлапцы і дзяўчаты, рухавыя дзеці, здавалася, усе палачане ішлі на рынак, каб прыняць удзел ува ўсеагульным гандлю. Новы чалавек у Полацку мог вынесьці ўражаньне, што ўвесь Полацк бяз вынятку прымае ўдзел у той вымене.

А дзесятай гадзіне раніцы на Прабойнай вуліцы каля крутога берагу ручая зьявіліся ваяводзкія стражнікі і пачалі зганяць адтуль тыя падводы, якія замест таго, каб зьехаць на Гандлёвую плошчу, запыніліся тут на прыбрэжжы і пачалі прадаваць на недазволеным мейсцы. Тымчасам на плошчы пачалі зьбіраць мыту, 5 пенязяў з падводы бралі мытнікі ваяводы. Зборка ішла гладка, тым балей, што тут-жа для астуджваньня жарсьцяў побач знаходзіліся і стражнікі з стрыкусамі ці баёвымі сякерамі на доўгіх паліцах. Сяньня той збор прынясе ў ваяводзкую казну ладны куш – багата копаў грашэй. Аднак радаснае ўзбуджаньне панавала сярод людзей на Гандлёвай плошчы і вакол яе. Цэлае мора зычных галасоў будзіла гучнае рэха і несла яго далёка на вуліцы Полацкага Вялікага пасаду.

### 2.

Дом купца футраў і скурных вырабаў Лукаша Скарыны высіўся ў Вялікім пасадзе на Вялікай вуліцы на ўзьбярэжжы Дзьвіны. Адтуль добра быў бачны Стары Манастыр Багародзіцы, а за ім за Чорным ручаём на высокай далячыне ўздымаўся ўвысь славуты Сафійскі сабор. Для тых, хто шукаў Скарыніну хату, бліскучы ў нябёсах Багародзіцкі крыж заўсёды быў добрым арыентырам. Па той бок Дзьвіны ў паўднёвым кірунку красаваўся сваімі званіцамі Манастыр Яна Папярэдніка. Кажны малы і стары мог паказаць знаны Скарынаў дом у тры паверхі з вычварнымі выкрунтасамі на падаконьніках. Фігура выразанага з моцнага дубу шарсьцістага бабра на падстрэшшы ўпрыгожвала той будынак. Паводле яго прыезжыя купцы лёгка знаназнаходзілі патрэбны ім дом. У сярэдзіне дому кажны новапрыбылы бачыў разьвешаныя на сьценах сабаліныя і гарнастайныя скуры. Яны засьцілалі крэслы і тапчаны. Чучала прыгатаванай да скоку на сваю ахвяру куніцы шчэрыла сваю пашчу ў дальшым кутку прасторнай гасьцёўні. Высокія сьцены, аднак, з усіх бакоў былі ўпрыгожаныя малярскімі працамі. На аднэй з іх на шырокім палатне мастак перадаваў у колерах сцэну князёўскага паляваньня, конных паляўнічых з князёўскай сьвіты, у каляровапярэстых гарнітурах і карункавых каўнярох, а ўперадзе–іх чараду ганчакоў з ашчэранымі ад узбуджаньня зяпамі. А перад імі – уцёкі ашалелага ад пагоні, зьбянтэжанага лося. Іншыя абразы малявалі родзічаў і заснавальнікаў слаўнага дому Скарынаў. Вісела колькі іншых абразоў на біблейскія тэмы. Паміж імі вылучалася сваім памерам шматфабная карціна, на якой малявалася Ўваскрошаньне Хрыстова. Тут, у гэтай упрыгожанай абразамі гасьцёўні адбываліся многія пагадненьні купцоў з усяго сьвету з старшынёй Полацкае купецкае гільдыі, Лукашом Скарынай. Апошні ведаў сабе цану. Вялікая ягоная крама знаходзілася недалёка адгэтуль, побач Гандлёвага пляцу. Калі ён часам ішоў пехатою да свае крамы каля яткаў, паглядаючы на дробныя крамкі, ён з гонарам думаў, што яны драбяза, не раўня яму, купцу шырака знанаму ў сьвеце, часта нават згадванаму ў наказах князёў і каралёў. Кажны сустрэчны нізка яму кланяўся ў пояс, аддаючы належнае славутаму Палачаніну.

Сяньня Лукаш Скарына не пайшоў у сваю краму. У той дзень, 6 сакавіка, ён меў вялікую турботу. Жонка чакала дзіцяці. Дарма, што старэйшаму сыну было ўжо восем гадоў, але Іванка яшчэ не памочнік. Хлапчанё. Здачкі невялікая дапамога. А тымчасам гандлёвы абыходак расьце. Вось-жа некалі свае хлопцы яшчэ як спатрэбяцца, каб было на каго пакласьціся бяз ніякае рызыкі і крyцельства. Лукаш цешыўся сваім сынам Івасям, пялегаваў, як зрэнку вока, надзею, што расьце будучы спадкаемца, каб пасьпяхова весьці далей слаўны і багаты дом Скарынаў.

Акрамя ўсяго, Лукаш праз усё жыцьцё адзначаўся дзеталюбствам. Любіў малых гладзіць па галоўцы, калі сустракаў іх у часе сваіх шпацыраў або па дарозе ў краму. Наглядаючы за тым ці іншым хлопчыкам, ён заўсёды суадносіў яго і параўноўваў у думках з сваім малым Іванкам. Яму заўсёды яго малы здаваўся лепшым за іншых, больш кемлівым ды й спрытнейшым. Цяпер прыгадваў з якім спрытам Іванка ў імгненьне вока мог апынуцца на самым версе даху і пачаць парадкаваць сваю галубятню. Але Лукаш пры гэтым не забыў, што той немец, які вучыць ужо Івашку лічэньню і дае яму ўрокі латынскае мовы, надта-ж ужо хваліць ягонага малога за посьпехі ў латыні, ды і ў нямецкай мове. „Даймаю я свайго малога рознымі даручэньнямі,– думаў цяпер Лукаш. –То зьбегай туды, аднясі рахунак аднаму купцу-пакупніку, то паведамі тагога-та, каб пасьпяшаўся з даўгамі, каб ня было патрэбы скардзіцца ваяводзкім людзям аб няспраўнасьці. Есьць-жа людзі для гэтага іншыя. Трэба будзе абмежаваць сынковую дапамогу. Няхай лепш вучыцца больш ды і гуляе ўволю. Лепш будзе гадавацца на нашую радасьць. Расьце хай на волі – некалі ў жыцьці мінецца яна."

Тут ён прыгадаў сваю Магдалену. „З часіны на часіну яна чакае дзіцяці. Паводле ўсіх адзнакаў, нараджэньне мусіць быць сяньня. Павітуха ўжо не адыходзіць ад яе ні на часіну. Адылі трэба і яму быць блізка. Кажнай хвіліны можа яно здарыцца. Яму трэба быць тут, каб распарадзіцца." З гэтымі думкамі ён падаўся ісьці на другі паверх па шырокім, бліскучым ад воску, драўляным усходкам. Крыху задыхаўшыся ад таропкае хады, ён з хваляваньнем адчыняў дзьверы ў спальны пакой, дзе на шырокім ложку затонутая ў пуховай пярыне, пад ватняю коўдраю ляжала ягоная Магда. Ейны зблядНелы твар выразна акаймляўся шатэністымі валасамі, што беспарадкавымі пасмамі рассыпаліся вакол галавы на падушцы. Збалелыя рысы твару выказвалі, што парадзіха ўжо цярпела ад болю. Павітуха трымала яе за руку і нешта прыгаворвала.

– Ну як, Магдачка, ці не прыйшоў ужо час? – запытаўся Лукаш, дарма, што яно відаць было і без запытаньня. Лукаш глядзеў у вочы Магды, нібыта чакаючы ейнага слова. Але за часіну парадзіха павяла вачыма на свой жывот і ледзь чутна прамовіла:

– Ужо пачынаецца... нешта надта забалела ўнізе. Балець стала і ў грудзёх... Можа лепш лекара прывезьці. Тога немца, што некалі Іванка прымаў...

Яна хацела яшчэ нешта дадаць, але ад болю не магла прамовіць, і адно скрыўлены твар прамаўляў сам за сябе, што пачыналіся мучэньні.

– Я зараз-жа загадаю паклікаць тога лекара, ён адгэтуль недалёка жыве... – прамовіў Лукаш і пабег стрымгалоў з пакою ўніз.

– Іваська, Івась! – гукнуў ён свайго хлопца на двары, дзе той гуляў з іншымі дзецьмі, коўзаючыся на санках па абледзянеламу дворышчы. – Бяжы хутчэй, Івась, на Нямецкую вуліцу да лекара Курта Бэйкмана. Ты-ж ведаеш, дзе ён жыве, быў у яго колькі разоў, Кажы яму, каб зараз-жа на кані ехаў да нас. Скажы, што парадзіха чакае на яго дапамогу.

– Слухаю, татка, – адказаў танклявым галаском хлопчык і зараз-жа пабег рухавымі крокамі ў бок Прабойнай вуліцы, каб адтуль дастацца да Нямецкай. Не прайшло і паловы гадзіны, як стары лекар Курт ужо злазіў з сваёй каламажкі й ішоў з двара ў Скарыніну гасподу.

### 3.

Тымчасам сонца, якое ўжо стаяла досыць высока, пачало з усходняга боку засланяцца нейкаю цёмнаю плямаю. Тая паступова расла і гусьцела, рабілася меньш пранікальнай для сьвятла, кажным сваім пасоўваньнем на сонечную кулю ўжо больш і больш зьмяншаючы ейную сьвятлейшую часьціну. На вуліцах Полацку рабілася ўсё цямней і цямней. Ужо як у тумане пачалі хавацца ад зрокаў людзей абедзьве брамы Дзяцінца: паўночна-заходняя – Духаўская, што выводзіла на Себяжскую дарогу, і Астрожская, што злучала з Астрогам дарогаю каля знанае Чырвонае вежы. Народ з апаскай углядаўся ў тое дзіва на небе і пачаў хавацца, дзе мог. Было ўжо не да гандлю. Полацкія мяшчане беглі дахаты, каб прыхавацца пад дахам. Прыезжым ня было куды бегчы ад сваіх коняў, і яны адно палахліва пазіралі на неба і пакрыты змрокам горад. Аднекуль пачалі зьяўляцца шаптуны, якія прарочылі канец сьвету. А старая блазнаватая Анішчыха запынілася каля ятак і пачала апавядаць аб тым, як яна бачыла ўва сьне нікому тут невядомага „сьвятога" Ахрыма, які раіў усім пакідаць Полацк перад нячуваным няшчасьцем. Горад нібыта апануюць нячыстыя сілы і будуць вышукваць усіх праведнікаў, каб спаліць іх у смале на вогнішчы на вачох блуднікаў. Гаварыла Анішчыха, што ўжо недзе бачыла тыя вялікія катлы ды нават нарыхтаваную для гэтае мэты смалу і карчы для падпальваньня. Спачатку яе слухалі з увагай. А затым нейкі малады дзяцюк зухавата вымавіў да старое:

– Дык чаму-ж ты не ўцякаеш, падсмаліўшы пяткі, замест таго, каб нам тут чмурыць галовы?

І ён наблізіўшыся да яе, над самай галавой старой моцна засьвісьцеў сваімі губамі, нібыта падуў у самаробную дудку. Дзе хто зарагатаў усьлед. Старая Анішчыха адно бліснула на яго злоснымі вачыма і адразу-ж зьнікла з далягляду. Яткі пачалі пусьцець, і адно адзінотныя

пешаходы яшчэ дзе-нідзе кандыбалі сваёю дарогаю дадому.

Па часе каланча Спаса-Ефрасіньнеўскае царквы пачала таксама зьнікаць за даляглядам на поўначы гораду. У далёкай шэрасьці толькі залацісты высокі крыж цяпер ледзь прыкметным зданьнем яшчэ заўважаўся на пачарнелым небе. Цемень адбірала ўсе адрознасьці на званіцах Сафіі, затуляла іх узортачыя падкрыжжы. Ужо ня дзеяла знаная мігатлівасьць Сафійскіх сьценаў. Адно сем вярхоў саборавых паранейшаму ахіналі горад унізе сьвятой раскошай і надавалі яму натхнены высокай мудрасьцяй выгляд. Высунутыя высака ўгару крыжы ледзь прыкметнымі прывідамі паранейшаму арыентавалі Палачаніна і паказвалі кірунак ягонаму перасоўванью ў густым мораку.

Зацьменьне сонца над Полацкам тога шостага сакавіка захапіла Палачан неспадзеўкі і напоўніла іх душы турботным непакоем. Усе хутка пахаваліся па хатам, а каторых яно засьпела на водшыбе, гнала безуглядна ў кірунку дахаты. Вуліцы неўзабаве апусьцелі і пачалі здавацца фантастычным марывам. Вялізарнымі прывідамі сярод маленькіх дамкоў вылучаліся шэрыя абрысы большых камяніцаў. Людзі жагналіся, глядзячы на Сафійскія крыжы, перад тым, як увайсьці ў хату. Прайшло некалькі часу пакуль зьнікла першае ўтрапеньне. А затым людзі, як краты, пачалі вылазіць з сваіх сховішчаў. Першымі пачалі выбягаць жэўжыкі-падлеткі з задымленымі шкельцамі, каб назіраць, як сонца будзе вызваляцца паступова з палананьня. Хлапецкая дапытлівасьць відавочна брала верх над першым прыступам баязьлівасьці. Калі на пачатку зацьменьня хлапчукі беглі з рэчышча Палаты стрымгалоў дахаты, дык праз некаторы час яны зноў пачалі зьбірацца на ачышчаным лёдзе тае ракі. Але на гэты раз ня гэтак дзеля коўзаньня на ёй, а каб гуртам, дзеля вясялосьці, наглядаць за тым Полацкім дзівам, якое гэтак узьбянтэжыла на пачатку ўсіх Палачанаў і перавярнула на той дзень звыклы ход жыцьця. Дзіцячы гоман зноў перапаўняў лядовыя прасторы Палаты і поўніў рэхам бліжэйшыя да ракі вуліцы і плошчы. Малады запал передаваўся старэйшым. Хутка сталі бачныя і дарослыя з задымленымі шкельцамі ў руках перад вачыма з узьнятай да неба галавой. Яны рабілі спробы нешта бачыць на сонцы, дарма што гэта доўга не ўдавалася, бо нешта надта доўга сонца не магло вызваліцца ад навалы на яго цёмнае сілы.

4.

У доме Лукаша Скарыны тымчасам адбываліся іншыя падзеі. Нікога там зацьменьне ня спужала і выклікала адно нейкае нявыразнае зьдзіўленьне. Калі ў хаце сьцямнела, пакаёўка запаліла сьвечкі і паставіла іх у гасьцёўні ды ў пакоі, дзе ляжала парадзіха. Лекар хуценька распрануўся і на запросіны Лукаша, пайшоў у пакой да парадзіхі. Адтуль ужо чуліся голасныя енкі. Курт агледзеў Магдалену, памацаў ейны пульс, абмацаў жывот і загадаў прынесьці цёплай вады і рушнікі.

Ад бязупыннага ходаньня людзей каля ложка хісталася полымя сьвечкі, і на твар парадзіхі кладзіся сьцені і пасьпешліва мітусьліва перабягалі з ейнага твару на грудзі і коўдру. Курт ссунуў у бок зь ейных ног коўдру, вызваліў іх з-пад лішняе ношкі. Цела парадзіхі адразу адчула палёгку і стала лягчэй дыхаць. А Лукашу Курт Бэйкман загадаў ня быць у пакоі парадзіхі. Лукаш з трапяткім сэрцам стаяў за дзьвярыма ў другім пакоі і ўслухоўваўся ў кажны шорхат, што ледзь чуўся здалёку. Пасьля некаторага чаканьня час пачаў здавацца яму цэлай вечнасьцяй. Ён пераступаў з нагі на нагу і шаптаў нейкую пацеру, вусны ягоныя ціхама вымаўлялі словы звароту да Ойчы.

Калі ўжо пачынала сьвятлець у доме і на Лукаша пачынала лагодна глядзець з іконы Божая Матка з дзіцянём-Ісусам каля грудзей, ён раптам пачуў за дзьвярыма выразны і прарэзьлівы крык дзіцяці. Во, як закалацілася ягонае сэрца! Ён ужо адразу быў памкнуўся ісьці ў той пакой і зрабіў нерашучы крок у той бок, але раптам запынуўся і пачаў чакаць адтуль навіны. Тыя лічаныя часінкі сталі яму здавацца гадзінамі. Аж раптам адчыняюцца тыя запаветныя дзьверы, адтуль зьяўляецца пакаёўка, і ўжо гаспадыніным тонам абвесьціла:

– Сын, ладны хлопец, віншую! – прамовіла яна і загадным знакам паказала, што Лукаш можа ўвайсьці. „Дзякуй Богу, відаць дайшлі мае словы да Ойчы,” – удзячна прамовіў ён шэптам і, калоцячыся ад узбуджаньня, увайшоў у жончын пакой. Магдалена ляжала ўспакоеная, адкінуўшы голаў і расьцярушыўшы сваё валосьсе вакол змучанага твару. Пабялелая ад мучэньня, яна цяпер выдавала нейкі іншы клопат. Задаволеная нараджэньнем моцнага і ўвесістага хлапца, яе цяпер турбавала адно меркаваньне. Яна ўсё не магла ў сваіх думках пагадзіць нарадзіны з гэтым зацьменьнем. Лукаш узяўся лагодна за ейную руку і моцна прыгубіў яе да сваіх вуснаў.

– Дзякуй табе, Магдачка, за сынка і за ўсё, што вынесла за яго, – ціхама гаварыў Лукаш, нахіліўшыся над жонкай і ўзрушаны бачаным каля Магдаленавых грудзей ружовенькім смактуном, які прытуліўся да поўнае цыцкі сваім чырвоненькім роцікам.

– Гэта-ж такая цемень была найшла сярод белага дня, калі я раджала! Што гэта магло значыць, ці не на бяду якую? – запыталася Лукаша ледзь чутным слабым голасам Магда. Аднак Курт Бэйкман пачуў і пасьпяшыўся заспакоіць сваім меркаваньнем.

– Гэта звычайная прыродная зьява, добра ведамая ў астранамічных ведах. Раз у якое дзесяцігодзьдзе сонца засланяецца месяцам. Але зацьменьне звычайна прыносіць зямлі, над якой яно бачыцца, добрыя ўраджаі. Значыць, гэты род быдзе ўрадлівым, багата нарадзіцца скаціны і зьвяр'я, зьявіцца новых людзей, кажнае зерне дасьць багаты плён. А ў Вас у хаце ўжо добры плён – такога сына Вам Бог паслаў. Асяні, Ойча, гэтую слаўную хату вечнай любоўю, ласкай Божай!

– А тое, што Ваш сынок зьявіўся ў сьвет якраз у момант, калі пачало сьвятлець і зьнікаць цямнота, дык гэта таму, – дадаў аўтарытэтна Курт – што яму наканаванае вялікае прызначэньне быць сьветачам свайго народу: будзе множыць веду і добра паслужыць людзям паспалітым сваім навучаньнем.

Слова адукаванага чалавека было важкім для Скарынаў. Магдалена супакоена з удзячнасьцяй зірнула на лекара. А Лукаш пацісьнуў яму яго старэчную руку. Раптам усе заўважылі, што ў пакоі рабілася ўжо зусім сьветла. Пакаёўка кінулася гасіць сьвечкі.

Калі выйшлі на панадворак выпраўляць Курта Бэйкмана, іх зрокі прыпалі да неба на паўдні. Сонца зноў радасна сьвяціла над зямлёй і адбівалася бліскучымі іскрамі на паддахавых лядзяшках. Адылі левая частка сонца была накрытая маладзіковым сярпом, які засланяў сабою прамяністую зыркасьць. Непранікальная шэрасьць тога сярпа на сонцы засталася ў памяці Лукаша. Ён даў сабе зарок расказаць некалі, калі падрасьце сынок, якім выглядала сонца ў дзень ягоных нарадзінаў. Ад таго дня ўсё жыцьцё і дзейнасьць нованароджанага пайшлі пад знакам месяца на сонцы. Ён надасьць ім чалавечыя твары і будзе ўжываць іх як друкарскі гуманістычны гэрб. Такім вызначальным стаўся сымбаль ягонага нараджэньня.

*Люты, 1982*
*Трой, Нью Ёрк*

# ЦАРКВА І ЛЮДЗІ Ў БЯДЗЕ

Пётра Манькоўскі

Больш чым два гады таму назад у Парахвіі БАПЦ ў Гайлэнд Парк, Н.Дж., здарыліся зусім незразумелыя на першы погляд падзеі: сьвятар збунтаваўся супроць свайго Правячага Епіскапа і Галавы Царквы, адмовіўся выканаць загад аб перамяшчэньні ў іншую парахвію і пацягнуў за сабой людзей. Тыя, за яго прыкладам, таксама ўзьняліся на бунт і перагаласавалі за „пераход” у іншую Епархію... Разбушаваўшыся бяз ніякае прычыны пажар перакінуўся на іншыя амэрыканскія Парахвіі БАПЦ і пачалася ў нас бяда.

Як ужо гаварылася раней, мы ня можам прыпісаць усяе віны людзям, якія кіруюцца інстынктам самаабароны перад запраўдным спраўцам гэтага закалоту, які добра хаваецца... Гэтае ўвасабленьне-інкарнацыя традыцыйнага Сатаны дзеіць па лініі індывідуальнага і масавага фізычнага і псыхічнага тэрору, проціставіцца якому могуць толькі людзі моцнай веры і стойкага характару. Такіх у нас, рэч ясная, вельмі мала – так яно вядзецца спрадвеку. Маса людзкая, у тым ліку і „генералы”, ды іншыя ажырэлыя былыя тузы, ідзе па лініі найменшага супраціву і няўхільна пападае ў няволю вавілонскую..., з якой нялёгка аправіцца. Сабатаж усяго роднага, беларускага, астаўлены ім, як апошняя дошка збаўленьня, за якую ўсе яны прагавіта хапаюцца... Гэта трагічная абставіна і ёсьць крыніцай наяўных бедаў.

Трагізм сытуацыі ў тым, што гэта абставіна, хоць і вельмі важная, сама па сабе нікоге не звальняе ад адказнасьці перад Богам і законам за свае ўчынкі. Пра гэта нельга забывацца, асабліва ў дачыненьні да Царквы і Яе адданых слугаў, якім сяньня ў нас дзеецца вялікая крыўда. Перш за ўсё гэта датычыць Галавы Царквы, нашага дарагога Мітрапаліта Андрэя, на чые старэнькія плечы зваліўся ўвесь цяжар грамадзка-рэлігійнага сабатажу: з усіх бакоў на яго кідаюць громы, а ўся яго „віна” ў тым, што спрабаваў разьмеркаваць сьвятароў з парахвіі, дзе было двох, па тых парахвіях, дзе ня было ніводнага, ды меў-жа на гэта ўсякае права, а навет абавязак. Зусім падобнае мусіць пераносіць і наш новы Ўладыка Ізяслаў, на якога таксама бяз дай-прычыны нямаведама што вешаюць, а чалавек „правініўся” толькі тым, што ахвяраваўся на службу Богу, сваей роднай Царкве і свайму няшчаснаму Народу. Іншыя яго-б на руках насілі, у нас вось ужо ідзе трэйці год, як церпіць зьнявагу і нагонку. Усё шчасьце, што чалавек удаўся моцны духам і целам, ды не даецца лёгка на правакацыі, а найважнейшае – чалавек праўдзівай веры і асьвечаны, ведае што робіцца і разумее. Такому на многа лягчэй нясьці крыж, ды якраз такі нам концам патрэбен у гэты цяжкі, грозны час.

Пад бязьлітасным кнутам Сатаны нявольнікі ўзьнімаюцца табуном і крычаць ув адзін голас – Прэч із судамі! Вядома, лёзунг гэты і погляд ня іхні, а Сатанін, таму дужа спрачацца з імі ня прыходзіцца. Усё-ж само-сабой узьнікае пытаньне: Ці можна было ўсьцерагчыся судовай дарогі? Ці можна было тут дагаварыцца, неяк угаварыць гэтых людзей, каб спынілі свае дзікія паступкі і перасталі разбураць нашу дарагую Царкву, каб уважылі Мітрапаліта, падпарадкаваліся Статуту і канонам Царквы? Нажаль, дарэмныя спадзяваньні... Чаму, спробы „гаварыць” рабіліся, але як!?

Атрымаўшы загад аб перамяшчэньні Яноўскі езьдзіў у Кліўленд, ды толькі не як едзе праваслаўны сьвятар да свайго Ўладыкі з пакорнай просьбай, каб перагледзіў загад. Дзе там! Ён паехаў каб прадэманстраваць перад Уладыкам сваю „сілу”, узяўшы з сабою цэлую баёўку-дэлегацыю „сваіх” парахвіянпартызан. Ён і ня думаў пакарыцца перад Галавою Царквы, мала з ім і гутарыў. Усё за яго зрабілі „прадстаўнікі” людзей – гаварылі з Уладыкам, дамагаліся свайго, пагражалі... Ці так вырашаюцца справы паміж Епікапам і падуладным яму сьвятаром? І прычым тут людзі? Чаму яны сталі ўмешвацца не ў сваё, калі іх справа гэта зусім не датычыць, бо ні іхнія інтарэсы, ні правы нічым тут не закранутыя. Праўда, людзі маюць права на сьвятара, але хто ім будзе вырашае толькі Правячы Епіскап Епархіі – адно з аснаўных правілаў статуту БАПЦ. Так ёсьць ува ўсіх праваслаўных Цэрквах. Намаганьне ўвесьці парахвіянаў у гэты працэс, яўная спроба бальшавізацыі нашай Царквы. Так быць ня можа!

Тую-ж самую схільнасьць наглядаем і ў арх. Мікалая, які прыехаўшы ў Гайленд Парк зусім ня прыкмеціў там сьвятара-бунтара, а навет стараўся яго апраўдаць, затое знайшоў там нейкія „непаразуменьні” паміж парахвіянамі і ў сілу гэтага свайго адкрыцьця, „на просьбу парахвіянаў” (а як-жа!) пераймае Парахвію пад сваю „апеку”, г.зн. пераводзіць яе ў сваю Епархію, ломячы гэтым аснаўныя правілы Апостальскіх Канонаў і Статуту БАПЦ. І гэты чалавек хоча, каб яго ўважалі за аўтара Статуту БАПЦ! Наагул паўстае пытаньне, ці ён ведаў, што робіць? Боехаць край сьвету, каб без патрэбы ўмяшацца ў справы несвае Епархіі, ды ўзьняць буру на ўсю БАПЦ – пашто яно, у чыю карысьць, каму яно трэба было? Сатане, толькі Сатане!

Але і Мікалай усьцяж рвецца да гутарак з Мітрапалітам, у кажным сваім гора-пасланьні заяўляючы пра сваю гатоўнасьць да згоды, з аднэй малазначнай (гэта на яго думку) прадумовай – каб Яноўскі астаўся на сваім месцы, а справа супроць яго была ўзята з суду.

Бачыце ад якой драбніцы залежыць лёс БАПЦ – трэба толькі, каб Беларускі Мітрапаліт пакарыўся перад прыблудай, якога ён пагнаў з Царквы... Мітрапаліт БАПЦ мае ўступіць сьвятару, які яго не прызнае! Каб ня дай Божа нешта падобнае сталася, гэта быў-бы самы ганебны канец нашай Царквы. Вось чаму Ўладыка Мітрапаліт ня можа пра гэта і думаць – і тут ні пры чым ягоная „упартасьць”, ці асабістыя амбіцыі, як гэта яму закідаюць пусталобыя. Справа тут прынцыпу: калі ёсьць Царква і Галавой Яе Мітрапаліт, то яму падпарадкоўваюцца ўсе бяз вынятку. Досыць вымусіць на ім адзін-адзінокі вынятак і ўся структура рухне... Гэта добра ведае Сатана і таму, пад яго пугай, нявольнікі ўсіх масьцей так зацята стаяць за таго гора-сьвятарка з Гайленд Парку – ад іх не адстае і Мікалай...

Вернемся яшчэ раз да гэтага апошняга, які, відавочна ідучы за прыкладам свайго падапечнага Яноўскага, наважыўся ігнараваць усе загады і пастановы Мітрапаліта і Сабору Епіскапаў БАПЦ, што датычаць яго асобы, і безадказна расскакаўся па несваіх парахвіях ды зусім ужо забыўся, дзе яго куросаньне. Выглядае, што яму ўжо ні Статут БАПЦ, ні каноны Ўсяленскай Царквы не пасуюць. Ён іх проста ўжо не заўважае – яму здаецца, што ён ужо перарос усе правілы, статуты, рэгуляміны... А тут круга яго мітусяцца тыя, што вызбыліся розуму і сумленьня, каб суліць яму скліканьне надзвычайнага Сабору БАПЦ супроць волі Галавы Царквы, і то як найхутчэй, каб выперадзіць у гэтым Мітрапаліта і Кансысторыю, хоць і павінны былі-б ведаць здаецца, што без Мітрапаліта і без Кансысторыі можна шмат што склікаць, толькі не Сабор БАПЦ.

Пры ўсім зразуменьні і максымальнай спагадзе трагізму іхняе сытуацыі, гэтых людцаў неабходна ўтаймаваць, бо ў службу Сатане яны затрацілі ўсякую меру ў сваіх паводзінах і не прызнаюць ўжо ніякага аўтарытэту – ні Правячага Епіскапа, ні Мітрапаліта, ані навет Сабору Епіскапаў. Гэта пагражае самому існаваньню нашай дарагой Царквы. Як мы бачылі вышэй, магчымасьці „гаварыць” з імі проста няма. Што-ж аставалася рабіць, каб вярнуцца да нармальнага жыцьця ў Царкве? Толькі прасіць дапамогі дзяржаўнай улады: паставіць людзей на месца і палажыць канец самавольству можа толькі суд цывільнага права, куды і прышлося зьвярнуцца. За гэта, як ведаем, бясконца нападаюць на Ўладыку Мітрапаліта нявольнікі і тыя, у каго недавар у галаве... Бо кідаць на чалавека такую „віну”, ці „ганьбу”, гэта ўводзіць у блуд добрых людзей! Суды-ж на тое і ёсьць, каб да іх мог зьвярнуцца ўсякі

*(працяг на 10-й бачыны)*

